# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1239) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 25 ЛІСТАПАДА 1979 г. ЦАНА 1 зл.


Гміна Чыжы займае плошчу ў 134 квадратныя кіламетры. Пражывае тут 4690 чалавек. На гаспадарцы працуе 3830 асоб (усіх гаспадарак 1502). Найбольш ёсць гаспадарак ад 5 да 10 гектараў — 800, затым звышдзесяцігектаровых — 442. Ад 2 да 5 га налічваецца 224 гаспадаркі і да 2 га — усяго 36 гаспадарак.

У гміне ёсць васемнаццаць сялэцкіх вёсак. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца: Збуч, Чыжы, Курашава, Клейнікі. Індывідуальныя сяляне гаспадараць на 10324 гектарах. Маюць 7652 га ворнай зямлі, 1480 га пасбішч, 1160 га сенажацяў і 32 га садоў. Дзяржаўны фонд зямлі налічвае 727 га. 170 га будзе перададзена ў карыстанне лепшым гаспадарам, якія намераны павялічыць свае гаспадаркі. Хлебаробы вырошчваюць збожжавыя культуры на 400 га (жытам абсяваюць 1590 га, ячменем — 820 га, пшаніцай 850 га). Пад пасевы „другога хлеба“ (бульбы) прадназначаюць 1250 га, льну — 550 га, рапсу — 600 га і агародніны — 70 га. У мінулым годзе ўраджай збожжавых быў у сярэднім 22 цэнтнеры з 1 гектара. Пшаніцы было 24 ц/га. З караняплодаў, напрыклад, бульбы сабралі 195 ц/га. Земляробы запарылі 250 тон бульбы. Сёлета плануецца запарыць яе 400 тон. Апрача таго, будзе зроблена 9000 тон кішонак (у мінулым годзе было іх усяго 1500 тон).

У Чыжоўскай гміне вяскоўцы гадуюць 6650 штук быдла, у тым ліку 3100 малочных кароў, 7980 свіней (у тым ліку 1100 свінаматак), 4000 авечак, 35500




курэй і 1150 коней (лік іх з году ў год змяншаецца ў сярэднім на 2,5%). Калі лік быдла і свіней затрымаўся на ўзроўні мінулага года, дык колькасць авец і курэй павысілася на 4,3% і 9,4% (найбольшы паказчык датычыць курэй). Ад каровы ў індывідуальнай гаспадарцы надаілі 2800 літраў малака (гэта сярэднегадовая).

Гаспадары чыжоўскай акругі прадалі дзяржаве 1300 тон збожжа, 5400 тон бульбы, 1190 тон жывой вагі свойскай жывёлы, у тым ліку 630 тон свіней і 560 тон ялавічыны (план продажу быў выкананы ў 108%), 6311 тысяч літраў малака (план быў рэалізаваны ў 105,7%) і 3100 тысяч штук яек.

У індывідуальнай гаспадарцы на 100 га зямельных угоддзяў выпадае 64 штукі быдла і 77 штук свіней. З кожнага 1 га сяляне прадаюць у сярэднім 115 кілаграмаў свойскай жывёлы і 611 літраў малака. У мінулым годзе яны на 1 га зямельных угоддзяў прымянілі 116 кілаграмаў НПК у чыстым рэчыве. Падсеялі яшчэ на палях і сенажацях 2300 тон вапны. Тут усе зямельныя ўгоддзі меліяраваны.

Вяскоўцы карыстаюцца 1400 студнямі і адным водаправодам, да якога падключылі 90 гаспадарак.



(Працяг на стар. 4)

## ПАД ШЫЛЬДАЙ СКР

Пад шыльдай СКР знаходзіцца на Беласточчыне больш зямлі, чым у дзяржаўных вясковых гаспадарках і ў спулдзельнях прадукцыйных.

Сяляне на працягу апошняга дзесяцігоддзя ўсё часцей адракаліся ад сваіх гаспадарак, бралі дзяржаўную пенсію, а зямля папаўняла дзяржаўны фонд. Заняцца гэтай зямлёй улады даручылі спулдзельням сельскагаспадарчых гурткоў. Такім чынам узніклі калектыўныя сельскія гаспадаркі пад шыльдай СКР.

### ЛЮДЗІ

Зараз у СКРах Беластоцкага ваяводства працуе 5250 чалавек. Сярэдняя іх

# ЧЫСТКА СУМЛЕННЯ

зарплата складае 4450 злотых і на працягу года ўзрасла яна на звыш 7 працэнтаў. 31 спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў на працягу трох кварталаў гэтага года перавыканала планавы фонд зарплат на 8 мільёнаў 200 тысяч злотых. З планамі ў іншых галінах дзейнасці СКРаў было ўжо горш. Для прыкладу, прадукцыйнасць працы, якую лічаць у залатоўках на аднаго рабочага, была на столькі ніжэйшая, на колькі павысіліся сярэднія заробкі. Аж у 23 СКРах наглядалася паніжэнне прадукцыйнасці працы.

Спулдзельнямі сельскагаспадарчых гурткоў кіруюць дырэктары. Ваяводскае кіраўніцтва ў кастрычніку гэтага года склікала іх на падлікі гаспадарчай дзейнасці за тры кварталы гэтага года. Гэтыя падлікі хутка пераўтварыліся ў сур'ёзную чыстку сумлення, спалучанай са шчырай аплявухай, накіраванай у адрас канкрэтных людзей. Аж дзіўна было слухаць. То ж у зале знаходзіліся пераважна людзі маладыя, адукаваныя, ва ўзросце 30-40 гадоў. І раптам чую ацэнку іх працы: **нядбайнасць, негаспадарнасць, арганізацыйны балаган.** Аднак па чарзе.

### ТРАКТАРЫ

Трактар, як і жывога каня, толькі тады аплоціцца трымаць, калі ён працуе. А тут старшыня Вайтэцкі называе канкрэтныя СКРы і падае лікі, з якіх чорна на белым вынікае, што ў Гайнаўцы, Мілейчыцах, Орлі, Саколцы, а таксама ў Васількове і ў Суражы эскаэраўскія трактары не змаглі выпрацаваць нават адну пятую частку той нормы, якая неабходная, каб трактар апраўдаў сваё існаванне. Для прыкладу, у Дабжыневе — 1015 гадзін працы на адзін трактар, але ў Орлі — толькі 137. У Кнышыне, праўда, за тры кварталы назбіралася 665 гадзін працы на адзін трактар, але трактары тут больш вазілі груз розным прадпрыемствам, чым аралі поле і касілі збожжа сялянам.

### КАЛІ ПРА ЗБОЖЖА...

...пайшла гутарка, дык старшыня Ваяводскага праўлення Саюза сельскагас-

Працяг на стар. 4

# ПРОСІМ НА СЦЭНУ!

У дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства пачаўся новы культурна-асветны сезон. Як дагэтуль, так і цяпер адно з вядучых месц у ёй займае правядзенне нашых конкурсаў: **„Беларуская песня — 80“, народных аркестраў і музыкаў, аматарскіх тэатральных калектываў.** Арганізуюць іх Галоўнае праўленне БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ з удзелам аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, Ваяводскага дома культуры, ваяводскіх праўленняў Саюза сацыялістычнай польскай моладзі і Таварыства польска-савецкай дружбы, Ваяводскай рады прафесіянальных саюзаў, Рабочай выдавецкай спулдзельні „Прэса-Кніга-Рух“, беластоцкага аддзялення Польскага музычнага таварыства і шэрагу іншых арганізацый і ўстаноў.

Усе конкурсы будуць праходзіць у асноўным у будучым 1980 годзе. Для ўсіх нас ён абазначае 35-ю гадавіну падзеі, што ўвайшла ў гісторыю як канчатковы разгром Савецкай Арміяй, Людовым Войскам Польскім, іншымі саюзнымі арміямі смяротнага ворага чалавецтва — фашызму. Таму БГКТ свае конкурсы праводзіць пад лозунгам **„35 год перамогі над фашызмам“,** а іх удзельнікі напэўна паклапоцяцца, каб яны былі на высокім ідэйным і мастацкім узроўні, адзначаліся аптымізмам, радасцю, весялосцю, выконваліся на іх творы разнастайныя, арыгінальныя, цікавыя.

Конкурс **„Беларуская песня-80“** праводзіцца на трох этапах: першым, што ўжо цяпер адбываецца ў розных мясцовасцях, гуртках БГКТ, гмінах; раённых — у месяцы снежні 1979 г., фінальным — у студзені 1980 г. У ім могуць прымаць удзел усе, каму споўнілася 15 год (школьнікі выберуць сабе адзін конкурс: школьны або для дарос-

(Працяг на стар. 4)



*Вакальны калектыў з Міклашэва. На сёлетнім цэнтральным аглядзе заняў III месца ў катэгорыі фальклорнай песні.* *Фота Я. Целушэцкага.*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XLIX

У апавяданнях Коласа, прысвечаных паказу п'яных герояў, няма маралізатарства і дыдактызму. Пісьменнік не карыстаецца ў гэтых творах перасцярогамі ці фінальнай мараллю. Сказанае не абазначае, што яго апавяданні з гэтага цыкла маюць характар натуралістычнай фатаграфіі. Інтэнцыі і погляды пісьменніка адчуваюцца ў падтэксце, а не ў аўтарскіх павучэннях. Можна думаць, што коласаўская манера, знешне як бы абыякавая ў адносінах на з'явы п'янства — была больш пераканаўчай для чытача, чым павучэнні і апеляцыі пісьменнікаў народніцка-сентыментальнага лагера. Стыль характарыстык п'яных герояў, бадай, пераняў Колас ад Гогаля. Адзін з першых даследчыкаў прозы Коласа меў рацыю, калі напісаў: „Так, галерэя п'яных герояў, абрысаваная пісьменнікам, мае сваю адпаведнасць у тых вясёлых казаках, што напаўняюць сабой апавяданні ў зборніках „Вечера на хуторе близь Диканьки“ і „Миргород“. Само сабой зразумела, што ў Я. Коласа як самі героі, так і абставіны змяніліся ў залежнасці ад тых сацыяльных умоў, якія таксама змяніліся“.

Стан алкагольнага дурмана выкарыстоўвае Колас для таго, каб сарваць з чалавека маску і паказаць яго сапраўднае аблічча. П'яныя героі Коласа паказваюць, кім яны сапраўды ёсць або кім хочуць быць. Пад уплывам алкаголю становяцца яны шчырымі. Коласа цікавіць псіхічная змена ў п'янага чалавека, яго ілюзорнае шчасце і ўзмоцненая эмацыянальнасць. Гарэлка прычыняецца да актывізацыі ў чалавеку не толькі схільнасцей адмоўных, але таксама схільнасцей альтруістычных, спрыяе яна часта прыліву дабраты і эмацыянальнага лірызму.

Галерэя п'яных герояў у апавяданнях Коласа вельмі абшырная і разнародная. Схільнасці і характары п'яных герояў пазваляюць падзяліць іх на некалькі груп.

I. У першую групу можам залічыць тых герояў, якія празмерна падкрэсліваюць свае заслугі, грамадскую вагу, фізічную сілу або разумовыя здольнасці. Адным словам, гутарка ідзе аб людзях з крайнім зазнайствам.

Першым прыкладам можа быць стараста з апавядання „Выбар старшыні“:

„Стараста! Я — стараста, ста-а-раста! — Пры гэтым стараста падняў угору палец, уставіўся ў адно месца, як бы ахопліваючы цалкам усю веліч свайго чыну, сваёй улады, магутнасці“.

Другі прыклад знаходзім у апавяданні „Пісаравы імяніны“:

„А хто накрыў пазалетась вучыцеляў на з'ездзе? — перапытаў старшыня. Ён увесь час маўчаў і старанна ачышчаў чаркі і тарэлкі. — Бачу я, збіраюцца валасатыя, кудлатыя, тут я і здагадаўся. Ось і накрылі! I цяпер чалавек дваццаць без службы бадзяюцца, як басякі“.

КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# ТРЫ СЫНЫ БАГАТАГА БАЦЬКІ

У далёкай краіне чыгуначнікаў жыў славуты пан Ваўжык. У яго было тры сыны: Янка, Міхась і Пятрусь. Ганарыўся пан Ваўжык сваімі пацанамі. А калі тыя падраслі, за пасадамі пачаў углядацца.

У тым часе нялёгка было знайсці добрую працу. Усюды патрабавалі пратэкцыі і аглядаліся на падарункі. Пан Ваўжык, як вядома гаспадар, знаёмых меў многа ў сталіцы, добрых калег на высокіх пасадах. Хутка знайшоў сынам пратэктараў. I ўсіх на добрыя пасады ўладзіў. Найстарэйшы сын Янка начальнікам стаў, а малодшыя браты яго памочнікамі.

Пачалі браты самастойна жыць. Хутка пажаніліся. Пан Ваўжык толькі час ад часу наведваў сваіх любімцаў, бо ведаў, што яны самі добра вядуць гаспадарку. I прыбытак маюць нядрэнны. Штодзённа па тэлефону гаварылі, свае дамашнія справы рашалі.

Янка з Міхасём жылі па адной старане вуліцы, а самы малодшы, Пятрусь, з другога боку. У гэтага малодшага менш душ было для харчавання. Таму татка заўсёды лепш любіў старэйшага і сярэдняга. Бывала, свята падыходзіць, і бацька пасылае то грошы, то падарункі сыночкам. Янку і Міхасю больш, а Петрусю — што з носа капне.

Бачылі ўсё гэта Петрусёвы дзеткі. Адзін перад другім выказвалі свае думкі аб бацьку і аб дзядзьках сваіх. I крыўду мелі да дзядулі свайго, што ладу паміж сынамі не завядзе. Ды што ж маглі зрабіць?

Набліжаўся Новы Год. Петрусёвы дзеткі даўным-даўно чакалі яго. Ды не толькі Новага Года чакалі, дзядулі Ваўжыка выглядалі. Спадзяваліся харошых падарункаў, грошыкаў крышачку. I дзядок шчодры быў, грошыкаў сыпнуў.

— Падзяліце паміж сабою, дзеткі, — сказаў, — справядліва падзяліце. Не крыўдзьце адзін другога!

Ды дзе ж справядліва грошы дзеляцца? I браты па-свойму раздзялілі бацькаў падарунак. Янку і Міхасю больш дасталася, а Петрусю — маленькая часцінка.

Не ў згодзе жылі браты паміж сабою, не любілі адзін другога. Найбольш Петруся не любіў Янка. Яго парад не слухаў, а сям'і Петрусёвай быццам не прыкмячаў. Ніхто не ведаў прычыны нянавісці.

Набліжалася прыхадское свята ў ваколіцы пана Ваўжыка. Фэст рыхтаваўся небывалы, рыхтаваліся і браты да ўрачыстых сустрэч з сваімі сем'ямі. Янка быў важаком, Міхась яму памагаў, а Петруся быццам і ў хаце не стала. Бо так штогод бывала.

Перад самым святам прыйшла вестка з горада. Пан Ваўжык паведамляў сынам, што з нагоды прыхадскога свята ўзнагароды ім пасылае. А што плён быў багаты таго года, дык і грошыкаў уляцела больш як заўсёды. Трэба было падзяліць падарунак таткі. Сустрэўся Янка з Міхасём ды кумоў сваіх паклікаў. Проста, каб чыстымі быць перад Петрусём і яго сям'ёй, ды і дзеткамі сваімі таксама. I пачалі дзяліць. Як падзялілі, ніхто не ведаў, толькі пасля казалі, што найбольш дасталася дзецям старэйшых братоў. Ды і кумоў сваіх Янка з Міхасём не пакрыўдзілі, і сваякоў іх таксама. Толькі Петрусю капелька капнула, як заўсёды. Не стаў ён дабівацца справядлівага падзелу, бо ведаў, што гэта бескарысна. А дзеці наймалодшага брата, убачыўшы несправядлівасць сваіх дзядзькоў, голасна пачалі гаварыць аб гэтым, бо хацелі, каб усе ўрэшце праўду ў ваколіцы ведалі.

**Ул. Сідарук**

# БЕЛАСТОКУ 230 ГОД

Беластоку як гораду ужо 230 год. Першыя заметкі аб пасёлку Беласток згодна сцвярджаюць яго існаванне ўжо ў XV стагоддзі. Гэта стары горад, з багатай гісторыяй. Сёння можам захапляцца прыгожым палацам і акружаючым яго паркам (гэта праўдзівая аздоба горада).

У час другой сусветнай вайны з 100-тысячнага насельніцтва палавіна загінула з рук гітлераўскіх захопнікаў. Прамысловыя аб'екты былі знішчаны ў 90%. А варта ведаць, што перад вайной Беласток быў цэнтрам тэкстыльнай прамысловасці.

Пасля вайны горад пачаў адбудоўвацца. У 1955 годзе пачало прадукцыю баваўнянае прадпрыемства „Фасты“. Цяпер тут працуе больш 6000 рабочых. Апрача таго, у Беластоку ёсць вялікія прадпрыемствы шарсцяной, спажывецкай, электрамашыннай прамысловасці. Яшчэ будуюцца фабрыка дываноў, фабрыка па вырабу прадметаў з серабра, прадпрыемства па апрацоўцы збожжа і іншыя.

Такім чынам, Беласток гэта ўжо вялікі прамысловы цэнтр. Тутэйшыя прадпрыемствы выпускаюць 85% агульнай прамысловай прадукцыі гэтага рэгіёна.

У Беластоку вучыцца амаль 11 тысяч студэнтаў. Беластоцкая медыцынская акадэмія выпусціла 4500 лекараў. Тут ужо амаль 30 гадоў існуе палітэхніка. Развівае сваю дзейнасць філіял Варшаўскага універсітэта. Нядаўна быў адкрыты філіял Вышэйшай тэатральнай школы. Ёсць два тэатры, філармонія, два музеі.

Знікаюць з беластоцкага пейзажа драўляныя дамы, так характэрныя для Беластока ў міжваенны перыяд. Ужо амаль няма следу па Сенным рынку, дзе даўней можна было ўсё купіць і прадаць.

Цяпер Беласток мае новыя, вялікія жыллёвыя пасёлкі, як, напрыклад, пасёлак Тысячагоддзя, Пяста, Антанюкоўскія сады, Прывакзальны і іншыя. Ёсць новыя, прыгожыя вуліцы і камунікацыйныя шляхі. У пабудове ёсць тры наступныя жыллёвыя пасёлкі, у тым ліку 40-тысячны пасёлак Захад. Горад прыгажэе з кожным годам.

Кватэр трэба яшчэ многа (сама менш для 30 тысяч чалавек). Неабходна будаваць больш крамаў, тэлефонныя цэнтралі, ачышчальню прамысловых і камунальных сцёкаў. Ёсць яшчэ і іншыя клопаты, тыповыя для гарадоў, якія хутка развіваюцца.

Самае важнае тое, што Беласток разбудоўваецца і гэта ўжо вялікі (тут зараз пражывае больш 210 тысяч асоб) горад, з сучасным абліччам, але ў якім захавалася яшчэ многа з колішняй прыгажосці

(яц)

**Фота Я. Целушэцкага**

Наша галерэя

*Мікалай Грыгарчук. Жывапіс. „Грамадскі пачын пры пабудове вуліцы ў Васількове“. 1978 год.* Фота М. Гайдука.

ПЕДАГАГІЧНЫЯ РАЗВАЖАННІ

# ЗАКАНАМЕРНАСЦІ РАЗВІЦЦЯ

У папярэдняй гутарцы мы гаварылі аб асноўных этапах у псіхічным жыцці чалавека.

Сёння, каб папоўніць характарыстыку кожнага з названых у папярэдняй гутарцы этапаў, хачу звярнуць увагу на тое, што таксама фізічнае, як і псіхічнае развіццё чалавека не праходзіць аднастайна. Чым ён малодшы, тым развіццё хутчэйшае, і наадварот: чым старэйшы, тым павальнейшае. Прытым і фізічнае, і псіхічнае развіццё дзяўчатак наступае хутчэй і больш гарманічна, прытым без такіх адхіленняў, як у хлопчыкаў. Асабліва цяжкі этап у развіцці чалавека — гэта час паміж 11-12 і 20-21 гадамі жыцця або інакш час фізіялагічнага даспявання і грамадскага станаўлення.

Апрача гэтага, неабходна памятаць, што найбольшыя хістанні ў пастаянным развіцці дзяцей і моладзі, якія праяўляюцца ў форме так званых выхаваўчых цяжкасцей, выступаюць таксама паміж 15-м і 21-м месяцамі жыцця, двума з паловай і трыма з паловай гадамі, а таксама паміж 10 і 12 гадамі жыцця.

Паміж гэтымі цяжкімі этапамі наогул развіццё наступае ўраўнаважана і з адпаведным прыстасаваннем да акружэння.

Значыць, калі ў вашага дзіцяці паявіўся зменлівы настрой, яно бунтуецца супроць усяго і ўсіх, выбухамі гневу і слёз успрымае ўсе іншыя, апрача сваіх уласных, погляды, памятайце, што гэта якраз і ёсць псіхалагічная заканамернасць, уласцівая для данай фазы яго развіцця. Не палохайцеся ў такіх выпадках і зразумейце, што ваша дзіця перажывае цяжкі для яго этап, што так і павінна быць у тым узросце, у якім яно цяпер. Ад вас тады патрабуецца спагада, сардэчнасць.

Уменне выхаваць дзіця ў сям'і якраз і заключаецца ў адпаведным „дапасаванні“ выхаваўчых уздзеянняў да індывідуальнага развіцця выхаванка, а не на непасрэдным знясільваючым змаганні за прывучэнне дзіцяці да выканання такіх заданняў, якія для яго ўзроўню развіцця не абавязковыя і яшчэ лішне цяжкія.

Умелае кіраванне развіццём дзіцяці ў сям'і заключаецца на прадуманай, разумнай пастаноўцы заданняў для дзіцяці і сысканні канкрэтных вымаганняў, але адпаведных для яго ўзросту і індывідуальных магчымасцей. А гэта патрабуе не толькі глыбокага валодання ведамі пра заканамернасці, якія кіруюць псіхічным развіццём чалавека, парадку ў паступовым здабыванні ім акрэсленых уменняў, але таксама сталага, уважлівага назірання за індывідуальным рытмам развіцця кожнага дзіцяці.

Аднак усё, што дагэтуль было сказана, датычыцца дзяцей, у развіцці якіх няма ніякіх парушэнняў ці недахопаў. Такіх дзяцей пераважная большасць. Побач з імі ёсць некалькі працэнтаў (па меркаванню некаторых тэарэтыкаў — нават звыш дзесяці працэнтаў) дзяцей са спозненым псіхафізічным развіццём, або з адхіленнямі ў гэтым развіцці. Але пра гэта ў наступнай гутарцы.

**др Мікалай Грыгарчук**

Імпартгумар

# ГУЛЬТАЙ

Увайшоў шэф.
— Кепска працуеш, — сказаў ён, свідруючы мяне злым позіркам. — Ну, глядзі, я пайшоў.
Увайшоў намеснік.
— Гультайнічаеш, — сказаў ён, ківаючы на мяне пальцам. — Ну, глядзі, я пайшоў.
Увайшоў загадчык аддзела.
— Не руплівы ты, аднак! — сказаў ён з крыўдай у голасе. — Ну, глядзі, я пайшоў.
Увайшла сакратар-машыністка.
— Марудна корпаешся! — сказала яна з усмешкай. — Ну глядзі, я пайшла.
— Нічога ты, аказваецца, не робіш! — самакрытычна сказаў і я сабе.
І пайшоў.
Як кажуць, бяда адна не ходзіць. Шэф, намеснік, загадчык аддзела, сакратар-машыністка, пра штосьці спрачаючыся, ішлі мне насустрач. „Пра мяне гавораць!“ — паласнула мне па сэрцы, нібы нажом. Так яно і было
— Лайдак! — сказаў шэф.
— Расцяпа! — сказаў загадчык аддзела.
— Разява! — кінула сакратар-машыністка. — Нават чаргі не змог заняць. Вось і засталіся без апельсінаў.

**Радзіф Цімірэшын**



*Дзе справядлівасць!*

## ЗАДРЫПАЙЛА

— Кажуць, што ты помслівы чалавек, Задрыпайла. Калі хто цябе пакрыўдзіць, дык ты нават праз многа гадоў адпомсціш!
— Ды што ты! Калі мяне мой шэф аблае, дык я ў той жа дзень спаганю злосць на жонцы.



**Ён глянуў праўдзе ў вочы. Тая не вытрымала і адвяла позірк.**

# НІЎКА



## ДВОЙКА З АНАТОМІІ

Супрацоўніца звяртаецца да начальніка:
— Вы дазволіце па абедзе пайсці з работы? Мне трэба вырваць хворы зуб.
— Дазваляю, — адказвае той, — але вымушаны прыгадаць, што ў чалавека толькі трыццаць два зубы, а вы ж з гэтага выпадку адпрашваліся ўжо разоў сорак.

## З „Весніка Задрыпоніі“
## МЕРЫ ПРЫНЯТЫ

Праяўляючы клопаты аб здароўі спажыўцаў, Задрыпанскае ўпраўленне харчовай прамысловасці абавязала ўсе гарэлачныя заводы друкаваць на этыкетках гарэлачных бутэлек папярэджанне: „Курэнне небяспечнае для вашага здароўя“.

## ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Ці можна стаць моцным, скарыстаўшы чыюсьці слабасць?

## РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

Andante
Gm Dm Gm A7 Dm B
У су_бо_ ту Ян_ ка е_хаў ля ра_ _кі, пад вяр_бой А_
F Gm C7 F B C
_лё_ на мы_ла руч_ ні_ кі. _Па_ка_ жы, А _ лё _ на,
C7 F Dm Gm Dm A7 Dm
бро_ ду зем_ля_ ку, дзе тут пе_ра_ е _ хаць на ка_ ні ра_ ку.

# РУЧНІКІ

**Словы В. Вярбы**
**Музыка М. Пятрэнкі**

У суботу Янка
Ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна
Мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна,
Броду земляку,
Дзе тут пераехаць
На кані раку.

— Адчапіся, хлопец,
Едзь абы-куды,
Не муці мне толькі
Чыстае вады, —

У маркоце Янка
Галавой панік,
Упусціла дзеўка
Беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік,
Памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае
Ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна,
Я вады баюсь,
Пацалуй спачатку,
Бо я утаплюсь.

Супыніўся гнеды
Пад вярбой густой.
Цалавала Лена
Янку над вадой.
Стала ціха-ціха
На усёй зямлі,
Па рацэ далёка
Ручнікі плылі...

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Вы тлумачыце крадзеж у прадуктовым магазіне тым, што былі галодныя. Але чаму ж вы не ўзялі ніякіх прадуктаў, а абрабавалі касу?
— Ваша міласць, я горды чалавек і прывык заўсёды расплачвацца за сваю ежу!

*

— Але гэта неверагодна! — крычаў раззлаваны рэжысёр. — У апошняй сцэне перад смерцю вы раптам пачалі смяяцца!
— Пры маёй зарплаце, — адказаў акцёр, — смерць уяўляецца мне самым шчаслівым выхадам.

*

— Што ты падарыла мужу да дня нараджэння?
— Серабрыстую лісу.
— А ён табе?
— Рыбалоўныя снасці.



Made in Zadrypanka

## ПАДАРУНАК

Спрачаюцца канторскія працаўнікі, што падарыць свайму начальніку на дзень нараджэння.
— Можа, прыгожую кніжку?
— прапануе нехта.
— Ды ў яго ўжо адна ёсць...





*Без слоў.*

# МІНІВЕРШЫ

## ПРЫЗНАЎ ІСЦІНУ

*Нарэшце ісціну прызнаў Максім,*
*Тлумачыць пры сустрэчах ён усім:*
*— А род людскі ад малпы*
*Сапраўды!*
*Як вып'еш,*
*То на чатырох ідзеш заўжды.*

**М. Мінчанка**

## КОТ-РЭВІЗОР

*Кот-рэвізор узяў камандзіроўку.*
*Праверыць нейкую сталоўку.*
*Праверыў як? Казаць не стану...*
*Адно скажу — злізаў смятану.*

**Захар Бірыла**

## ПАРАДА ПРАМОЎЦУ

*Трымаеш прамову —*
*Пра сэнс дбай,*
*пра мову.*

**І. Курбека**



## СУПАКОІЎ

Жонка: — Які жах! Наш Міколка праглынуў ключ.
Муж: — Супакойся, даражэнькая, у мяне ёсць запасны.

## ГОРА

— Кастусь, колькі гадоў твой сусед жанаты?
— Не ведаю. Дзе там мне хваляваца пра чужое гора...

## УХІТРЫЎСЯ

— Мой муж так прастудзіўся!
— Скажыце яму, каб ён больш піў і адпачываў.
— Ах, доктар, калі гэта дапамагае, я ўвогуле не разумею, як ён ухітрыўся прастудзіцца.

# Курёзы

## ПАЛІЦЭЙСКІЯ-ЗЛАДЗЕІ

Не так даўно ў Бельгіі адбылося незвычайнае аграбленне. У ім удзельнічалі і прафесіянальныя зладзеі, і пачынаючыя аматары-паліцэйскія. Ахвярай нападу і тых і другіх стаў адзін і той жа брусельскі магазін. Толькі спачатку яго як след абчысцілі ўзломшчыкі, а потым вырашылі пажывіцца паліцэйскія, якіх пакінулі ахоўваць месца злачынства. „Крыху больш, крыху менш — якая розніца?“ — заявілі яны на судзе. Аднак злачынства гэтых паліцэйскіх выглядае дзіцячым свавольствам, лічыць бельгійская „Суар“, у параўнанні з „дзейнасцю“ іх калег з горада Кокельберга. За кароткі час, выкарыстоўваючы службовую машыну, яны ўчынілі трынаццаць крадзяжоў.

## ВЫБРАННІКІ ВЕСЯЛЯЦЦА

Амерыканскі пісьменнік Р. Мур, які гадамі збіраў матэрыялы аб творцах вашынгтонскай палітыкі, прыйшоў да вываду: у кангрэсе ЗША працуюць карупцыя, разбэшчанасць і п'янства. Былы спікер палаты прадстаўнікоў Карл Альберт, паведамляе Р. Мур, сістэматычна напіваўся да непрытомнасці. На грошы падаткаплацельшчыкаў ён трымаў шмат сакратарак, асноўны абавязак якіх не меў нічога агульнага з іх службовымі функцыямі. Аналагічныя паводзіны, сцвярджае Р. Мур, характэрныя як мінімум для чвэрці або трэці „выбраннікаў народа“.

## ПРАСЦЕЙ БІЛЕТЫ МОЎЧКІ

„У час работы з касірам не размаўляць“.
*(З аб'явы на аўтобуснай станцыі).*





**У кожнага свая ахілесава пята. У некаторых — гэта галава.**